Маскевіч, Г. І. Сялянства Беларусі ў мадэрнізацыйных працэсах у другой палове XIX–пачатку XX ст. / Г. І. Маскевіч // Працы гістарычнага факультэта БДУ: навук. зб. Вып. 4 / рэдкал.: У. К. Коршук (адк. рэд.) [і інш.]. — Мінск: БДУ, 2009. — С. 295–301.

***Г. І. МАСКЕВІЧ***

# СЯЛЯНСТВА БЕЛАРУСІ Ў МАДЭРНІЗАЦЫЙНЫХ ПРАЦЭСАХ У ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XIX — ПАЧАТКУ XX ст.

Працэсы мадэрнізацыі ў другой палове XIX — пачатку XX ст. аказалі ўплыў на эканамічнае, сацыяльнае, грамадскае, культурнае жыццё вясковага насельніцтва. Адным з вынікаў мадэрнізацыі было павелічэнне колькасці адукаваных сялян. Гэта было абумоўлена не толькі той акалічнасцю, што ў краіне інтэнсіўна развівалася сістэма адукацыі і павялічвалася колькасць навучальных устаноў, аднак і тымі новымі магчымасцямі, што атрымала сялянства ў сувязі з адменай прыгоннага права і набыццём асабістай свабоды.

Ранейшая замкнёнасць грамадства і строгая абмежаванасць праў прадстаўнікоў сялянскага саслоўя стрымлівала працэсы сацыяльнай мабільнасці. Станаўленне грамадства новага тыпу не азначала хуткага разбурэння ранейшых сацыяльных перагародак, аднак дало селяніну больш шырокія магчымасці змяніць свой статус, у тым ліку і праз набыццё адукацыі. Адукаваныя сяляне маглі займаць службовыя пасады, якія раней замяшчаліся ў большасці выхадцамі з дваран — пасады валасных пісараў і не толькі. У канцы XIX — пачатку XX ст. сярод сярэдніх і ніжэйшых чыноўнікаў Гарадзенскай губерні выхадцы з сялян складалі 40 % [7, с. 80—81]. Адукацыя давала сялянам магчымасць больш прыбытна весці гаспадарку, мадэрнізаваць і палепшыць свой побыт.

Працэс навучання быў звязаны з часовым жыццём селяніна ў горадзе, з больш цеснымі кантактамі з прадстаўнікамі іншых саслоўяў — мяшчанства і нават дваранства. Частка сялянства заставалася жыць у горадзе, атрымоўваючы пэўную рабочую прафесію, далучаючыся да новых сацыяльных груп. Частка вярталася ў вёску, прыносячы з сабой



здабыткі гарадской культуры і новы стыль жыцця, што прыводзіла да змянення такога глыбока традыцыйнага боку сялянскага існавання, як фальклорныя звычаі і абрады. Даследчыкі беларускай этнаграфіі і культуры другой паловы XIX — пачатку XX ст. неаднаразова адзначалі, што менавіта адукаванасць пэўнай часткі сялянства прывяла да знікнення некаторых даволі «варварскіх» на іх погляд звычаяў вясковых святкаванняў. Як прыклад можна прывесці беснаванне ў ноч на Івана Купалу, публічнае прыніжэнне дзяўчыны яе роднымі і роднымі жаніха ў выпадку яе нецнатлівасці пры першым шлюбе, дзікасць і гвалты пры адзначэнні гадавых памінальных дзён на могілках і інш. [1, с. 22].

Знаёмства з гарадскім ладам жыцця ўплывала на мадэрнізацыю і паляпшэнне побыту беларускага селяніна. У нататках этнографаў пры апісанні тых наватарстваў, што з’яўляліся ў сялянскай гаспадарцы, звычайна адзначаецца, што назіраліся яны ў адукаваных і заможных вяскоўцаў. Гэта значыць, што менавіта ў іх упершыню на вёсцы пачалі з’яўляцца самавары, іконы ў багетавых рамах, фабрычнае адзенне і абутак, драўляныя падлогі і атынкованыя сцены ў хатах. Гэты ж факт з’яўляецца сведчаннем таго, што атрыманне адукацыі адкрывала перад селянінам магчымасці паляпшэння эканамічнага становішча. Аднак у дадзеным выпадку адукаванасць неабавязкова атаясамлівалася з навучаннем у пэўнай установе і атрыманнем дыплома. Хутчэй за ўсё, тут браліся пад увагу менавіта найбольш прасунутыя гаспадары, якія ведалі тэхнічныя і культурныя здабыткі часу. Пазнаёміцца з дасягненнямі індустрыяльнай эпохі можна было толькі праз кантакт з прадстаўнікамі больш акультураных і адукаваных саслоўяў. Невыпадкова, што ў разрад такіх наватараў на вёсцы траплялі сельскія старасты, старшыні, пісары, карчмары і гарадскія бывальцы (тыя, хто пэўны час пражыў у горадзе) [6, с. 69, 99].

Павелічэнне пісьменнасці сярод сельскага насельніцтва было безумоўным здабыткам часу. Ужо на пачатку 60-х гг. XIX ст. сяляне пачалі разумець неабходнасць адукацыі сваіх дзяцей, і калі не было іншай магчымасці, то нават самастойна арганізоўвалі школкі, наймаючы за грошы настаўнікаў [7, с. 58]. Добрым шанцам для навучання ў школах, вучылішчах, семінарыях было атрыманне губернатарскай стыпендыі ці навучанне за казённы кошт, што здавалася вялікай удачай, падарункам лёсу. На самой справе існавалі пэўныя цяжкасці пры сутыкненні з гэтым на практыцы. Вось як абстаялі справы ў Мар’інагорскай сельскагаспадарчай школе. Усе вучні падзяляліся на 3 групы — стыпендыяты, казённыя навучэнцы і пансіянеры. Адрозніваліся яны памерамі срод-

каў, што выдзяляліся на іх утрыманне. На стыпендыятаў выдаткоўвалася 80—100 руб. у год, на казённых вучняў — 120 руб., а пансіянеры самі плацілі школе па 60 руб. у год. Лічылася, што гэтыя сумы павінны забяспечыць патрэбы навучэнцаў. 120 казённых руб. размяркоўваліся наступным чынам: абмундзіраванне — 15,85 руб., абутак — 13,55 руб., бялізна — 10,95 руб., ежа (харчаванне сталом) — 60 руб., іншыя патрэбы — 19,65 руб. [4, л. 33 (аб)]. Нягледзячы на гэта, часта здаралася так, што селянін, атрымаўшы стыпендыю, не мог дазволіць сабе знаходзіцца ў школе і працягваць навучанне. Галоўнымі віноўнікамі тут былі мясцовыя чыноўнікі і школьная адміністрацыя, якія імкнуліся пакласці гэтыя грошы сабе ў кішэню. На імя губернатара паступалі скаргі, падобныя на скаргу А. Іванова. Вучань пісаў, што, з'яўляючыся стыпендыятам, ён знаходзіцца ў выключна жаласным і безвыходным становішчы з-за злоўжыванняў школьнага кіраўніка. Вось якім чынам быў апісаны школьны побыт: «Стыпендыятам выдаецца толькі адна пара ботаў і шапка. Адзенне наша нічым не адрозніваецца ад адзення платных пансіянераў, хаця ў плаце ёсць вялікая розніца. Усім выдаецца наступнае адзенне ад школы: тры пары палатняных споднікаў, тры кашулі; узімку — шэрага палатна штаны, куртка чорнага палатна, зімовая шапка, летняя шапка, пас, валёнкі, боты і прышвы да іх на адзін год, шэрая салдацкага палатна паддзёўка на два гады і паўшубак са звычайнай аўчыны на чатыры гады. За зіму штаны зносяцца, а ўвесну я вымушаны хадзіць у адных споднiках і сарочцы і на працу і ў царкву, таму што другія спаднікі і сарочка знаходзяцца ў пральні, а трэцяя пара не выдаецца. Усё гэта суправаджаецца ў веснавы час рознымі захворваннямі, прастудай і інш. Нарэшце, да сярэдзіны лета споднікі і кашуля зношваюцца, а новых школа не выдае. І калі б стыпендыяты і пансіянеры не набывалі за свой кошт адзенне, то не было б чаго насіць. Я ж, за адсутнасцю сродкаў, па беднасці сваёй не магу гэтага зрабіць. Я вымушаны хадзіць у адных падраных споднiках і кашулі на працу і ў царкву» [4, л. 28—28 (аб)]. Не выключана, што такія ж складанасці ўзнікалі і з харчаваннем. Вучань А. Іваноў прасіў не выдаваць яго прозвішча, таму што баяўся помсты. Калі б падобнае становішча працягвалася далей, то ён вымушаны быў альбо пакінуць навучанне, альбо цярпець здзекі. А ў атмасферы такога псіхалагічнага і матэрыяльнага незадавальнення было складана дабіцца станоўчых вынікаў. Такім чынам, пашырэнне фактычных магчымасцей адукацыі сельскага саслоўя на практыцы сутыкалася з пэўнымі складанасцямі, трапляючы ў залежнасць ад маёмаснага стану сялянскай сям'і. З пункту погляду ўнутрысаслоўных адносін адукацыя



з'яўлялася чыннікам сацыяльнага разрыву паміж членамі сельскай грамады, яшчэ больш падкрэсліваючы існуючую эканамічную дыферэнцыяцыю.

Атрымаўшы хаця б якую пісьменнасць, селянін неабавязкова выкарыстоўваў свае веды ў станоўчым накірунку. Здаралася так, што адукаваныя сяляне прыносілі нямала клопатаў сваім аднавяскоўцам. Хаця доля адукаваных выхадцаў з сялян у другой палове XIX ст. усё больш павялічвалася, а неабходнасць атрымання адукацыі рабілася ўсё больш зразумелай, большая частка вясковага насельніцтва ў другой палове XIX ст. працягвала заставацца малапісьменнай ці ўвогуле неадукаванай. Станаўленне новага грамадства і новых сацыяльна-эканамічных адносін, так ці інакш, ставілі сялян перад неабходнасцю ў пэўнай ступені займацца справаводствам. Пасля вызвалення з-пад прыгону значна павялічылася колькасць разнастайных скарг і спрэчак, у першую чаргу зямельнага характару, што зыходзілі ад сялян. Звяртанне ў суд патрабавала ведання законаў, правіл правядзення гэтай працэдуры і элементарнага пісьменства, каб выкласці сутнасць справы на паперы. Ва ўмовах непісьменнасці і некампетэнтнасці большай часткі насельніцтва вёскі знаходзіліся асобы, якія выкарыстоўвалі сваю адукаванасць для падману даверлівых аднавяскоўцаў.

Зямля была асноўным багаццем і крыніцай існавання селяніна. Пасля адмены прыгоннага права ў сялян з'явілася магчымасць набываць зямлю. Не кожны селянін меў уласныя сродкі для такой пакупкі, таму многія звярталіся за пазыкамі ў банк. Гэтым і карысталіся некаторыя мясцовыя грамацеі, якія тлумачылі сялянам, як можна з іх дапамогай танна набыць зямлю, выгадна ўзяць пазыку і г. д. Яны збіралі з аднавяскоўцаў грошы, дэманструючы быццам бы сапраўдныя дакументы і дамовы, але зямлі сяляне не атрымоўвалі. На 11 250 руб. ашукаў таварыства з 24 чалавек селянін Віленскай губерні Аляксандр Жолабаў, які выдаваў сябе за агента Віленска-Ковенскага сялянскага банка. Падманутыя сяляне сведчылі, што Жолабаў пераканаў іх у неблаганадзейнасці былога паверанага Івана Станкевіча, які збіраў з кожнага па 2 тыс. руб., і паабяцаў заключыць тое ж пагадненне аб пакупцы зямлі за 1250 руб. [2, л. 24—25]. Члены сялянскага таварыства аддалі яму грошы, пасля чаго «агент» знік, а некаторыя з сялян замест чаканага павелічэння гаспадаркі былі пазбаўлены апошніх сваіх набыткаў. Падобныя скаргі на дзеянні таго ж Жолабава паступалі на імя генерал-губернатара ад сялян Дзісненскага, Лідскага, Свянцянскага паветаў. Акрамя карысных дзеянняў з мэтай атрымання грошай, Жолабаў узводзіў паклёпы на іншых сялян, якія



маглі быць арыштаваны ці пакараны штрафамі, як гэта адбылося ў выпадку з тым жа Іванам Станкевічам.

Ашуквалі сялян і праз абяцанне так званай адвакацкай дапамогі. Такія з'явы былі даволі пашыраны ў беларускіх вёсках. Вось, напрыклад, як пра гэта пісаў Віленскі губернатар: «Перш, чым завесці справу, селяніну трэба ведаць той прамы шлях і тую бліжэйшую ўладу, ад якой ён можа чакаць дапамогі. Улады ж і кіраўніцтва так шмат, што селянін рашуча не здольны разабрацца, куды і да каго звяртацца. І як толькі

ўзнікае ў яго справа, дык пачынаюцца яго бязмежныя блуканні і звычайна па ўказанням вясковага адваката. Ён падае прашэнні ва ўсе ўстановы, якія гэтаму адвакату вядомы, і пакуль выйдзе на правільны шлях, павінен несці масу выдаткаў у часе і сродках. Гэта адно з галоўных зол у сялянстве Паўночна-Заходняга краю. Яно ж з'яўляецца непасрэднай і адзінай, можна сказаць, прычынай распаўсюджвання вясковай адвакатуры не толькі ў асяроддзі разначынцаў і яўрэяў, што жывуць у вёсках, але нават ці не ў большай ступені паміж самымі сялянамі. Рэдка ў якой воласці не знойдзецца такіх сялян, якія, хаця б трохі ведаючы грамату, зусім кідаюць земляробства, выбіраючы адвакатуру, а гледзячы па неабходнасці, і ілжэсведчанне пастаянным сваім промыслам» [3, л. 61—61 (аб)]. Адукаванасць толькі невялікай часткі жыхароў вёскі рабіла магчымым узнікненне і існаванне падобных ашуканцаў. Неадукаванасць і даверлівасць большай часткі беларускіх сялян, складаны працэс прыстасавання да новых умоў жыцця прыводзілі часам да матэрыяльных страт і асабістых нягод.

Невыпадкова, што стаўленне некаторых вясковых жыхароў да атрымання адукацыі не заўсёды было станоўчым. Усталяваны ўклад сялянскага жыцця часта са складанасцямі прымаў новыя павевы часу. Найбольш кансерватыўныя прадстаўнікі вёскі нават яшчэ ў пачатку XX ст. скептычна ставіліся да навучання сваіх аднавяскоўцаў. Сярод такіх сялян бытавала думка, што доўгае прыбыванне ў школе, адарванасць ад сваёй сям'і і гаспадаркі толькі перашкаджала працы на зямлі і ператварала навучэнцаў у гультаёў, хаця яны ўвесь вольны канікулярны час праводзілі ў вёсцы і працавалі не горш за іншых [8, с. 140]. Такім чынам выказвалася адмоўнае стаўленне часткі сельскага насельніцтва да здабыткаў новай індустрыяльнай эпохі.

Якасна новыя змены ў грамадстве, знаёмства сялян з гарадской культурай неслі не толькі паляпшэнне матэрыяльна-бытавога становішча. Немагчымасць прыстасавацца да прагрэсіўных патрабаванняў часу прывяла частку былога насельніцтва вёскі да збяднення, жабрацтва, мараль-



на-псіхалагічнага падзення. Яшчэ ў дарэформенны час існавалі такія катэгорыі сялянства, што не мелі сродкаў для існавання. Зараз гэтыя людзі вымушаны былі шукаць сабе харчаванне праз батрацтва, найм на працу і г. д. Такія магчымасці былі значна павялічаны з развіццём гарадоў. Аднак урбанізацыя праяўлялася не толькі ў павелічэнні гарадскога насельніцтва, развіцці прамыслова-фабрычнай індустрыі, паляпшэнні санітарна-гігіенічных і побытавых умоў жыцця. Разам з тым павялічвалася і колькасць маргінальных пластоў насельніцтва. Горад прывабліваў вясковых жыхароў не толькі як крыніца законных заробкаў і «прыгожага» жыцця, але і як добрая тэрыторыя для жабрацтва, крыміналу, прыбытнае месца для крадзяжоў і злачынстваў. Сяляне разумелі, што гарадское насельніцтва — гэта не вясковая грамада, дзе кожны ведаў адзін аднаго і дзе існавалі ўкаранёныя нефармальныя, аднак уплывовыя маральна-этычныя нормы паводзін і пэўны характар узаемаадносін. У горадзе кожны адказваў сам за сябе і не было тых строгіх кантралюючых абмежаванняў грамады, якая сачыла за дзейнасцю кожнага са сваіх членаў і магла выключыць ці нават выслаць нядобранадзейную асобу. Бадзяжніцтва праследавалася і ў гарадах, але тут селянін не адчуваў на сабе псіхалагічнага ўздзеяння аднавяскоўцаў і сваёй асабістай адказнасці перад грамадой. Вялікая колькасць архіўных спраў аб высылцы бадзяг у Сібір сведчыць аб пашырэнні і распаўсюджванні гэтай з'явы ў канцы XIX ст. Напрыклад, у 1886 г. у чацвёртым стале Віленскага губернскага праўлення з 26-ці высылак 11 адбыліся за бадзяжніцтва, а ў 1890 г. палову ўсіх сасланых складалі менавіта бадзягі [5]. Нягледзячы на існаванне паліцэйскіх органаў і строгіх мер пакарання, пэўная частка сялянства, папаўняючы ніжэйшыя колы грамадства, імкнулася ў горад за атрыманнем лёгкіх грошай.

Здабыткі індустрыяльнай эпохі пранікалі на вёску праз пашырэнне сувязей з горадам і атрыманне сялянамі адукацыі. Змены, што адбываліся ў асяроддзі сялянскага саслоўя, былі каталізаваны і акцэнтаваны яшчэ і тымі наваўвядзеннямі, якія выклікала да жыцця сялянская рэформа 1861 г. Працэсы мадэрнізацыі ўсяго грамадства разам з канкрэтна-саслоўнымі зменамі прывялі да змяненняў у паўсядзённым і гаспадарчым жыцці кожнай асобнай сялянскай сям'і, выклікалі перабудову агульнасялянскіх культурна-духоўных традыцый і каштоўнасцей, спрыялі хутчэйшаму пазбаўленню ад атавізму, што застаўся на вёсцы ад прыгонных часоў, актыўнаму ўдзелу сялянства ў працэсе пабудовы новага грамадства, разбурэнню даўно ўсталяваных і пабудове якасна новых сацыяльна-эканамічных стасункаў у асяроддзі вясковага насельніцтва.



Сялянскі фальклор, сялянскія святы і святкаванні, звычаі і абрады, з'яўляючыся найбольш традыцыйным і нязменным бокам сялянскага жыцця, не здолелі пазбегнуць уплыву новага часу. Павелічэнне эканамічнага дабрабыту, знаёмства з новай гарадской культурай наклалі свой адбітак на паўсядзённае і на святочнае жыццё вёскі. Галоўнымі трансфарматарамі дасягненняў з горада ў вёску былі перадавыя і адукаваныя сяляне. Неабходна мець пэўны час, каб грамадства прыняло наватарствы і яны сталі традыцыямі. У такі пераходны перыяд станоўчыя дасягненні развіцця не заўсёды маюць станоўчыя наступствы. У другой палове XIX ст. сялянства Беларусі якраз перажывала падобны пераходны стан, і разуменне ўсіх станоўчых чыннікаў мадэрнізацыі не абараняла ад цяжкасцей і адмоўных наступстваў, што ўзнікалі на гэтым шляху.

**ЛІТАРАТУРА**

1. Записки императорского русского географического общества по отделению этнографии. Т. 5. СПб., 1873; *Шейн П. В.* Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. Т. 1. Ч. II. Бытовая и семейная жизнь белоруса в обрядах и песнях. СПб., 1890.

2. Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Ф. 378. Воп. 1891. Адз. 338.

3. ДГАЛ. Ф. 378. Воп. 1891. Адз. 392.

4. ДГАЛ. Ф. 378. Воп. 1892. Адз. 405.

5. ДГАЛ. Ф. 381. Воп. 17. Т. 2.

6. *Никифоровский, Н. Я.* Очерки простонародного житья-бытья в Витебской Белоруссии и описание предметов обиходности (Этнографические данные) / Н. Я. Никифоровский. Витебск, 1895.

7. *Токць, С. М.* Беларуская вёска на мяжы эпох: Змены этнічнай свядомасці сялянства ва ўмовах распаду традыцыйнага аграрнага грамадства (па матэрыялах Гарадзеншчыны 19 — першай трэці 20 ст.) / С. М. Токць. Гродна, 2003.

8. *Улашчык, М. М.* Была такая вёска. Гісторыка-этнаграфічны нарыс / М. М. Улашчык. Мінск, 1989.